ГРОДНА
№2 (577),
23 студзеня 2022

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Выбраў Бога




*Яго чакала юрыдычная кар'ера і шлюб з багатай дзяўчынай. Абраў святарства, каб умацаваць веру католікаў і вярнуць Хрысту тых, хто перайшоў у кальвінізм.*

на старонцы 2

## Датыкаючыся да благаслаўлёнага



*Набліжаем асобу П'ера Джорджыа Фрасаці – бласлаўлёнага, які быў "і да танца, і да ружанца".*

на старонцы 4

## Сексуальныя праблемы ў сужэнстве




*Часцей за ўсё ў мужа і жонкі не хапае смеласці або яны не здольны пагаварыць адзін з адным на гэтыя тэмы.*

на старонцы 7

# ФАРМАЦЫЯ СЕМІНАРЫСТА – ШЛЯХ, ЯКІ РАСПАЧЫНАЕЦЦА ДА СЕМІНАРЫІ




Адна з духоўных практык клерыкаў – частая споведзь

**З той моладзі, што маем, выходзяць будучыя святары. І кожны з нас можа стаць тым прыкладам, які сфарміруе ў асобе ці пацвердзіць яе правільныя каштоўнасці. Таму і адказнасць за тое, якіх духоўных кіраўнікоў будзем мець, таксама ляжыць на кожным з нас.**

на старонцы 3

# МЭТА НЕ НАБІЦЬ КЛЯШТАР ПАКЛІКАННЯМІ, А ПАКЛАПАЦІЦЦА ПРА МАЛАДОГА ЧАЛАВЕКА




Рэкалекцыі для дзяўчат у Навагрудку

**Назарэтанкі з'яўляюцца адной з найвялікшых жаночых супольнасцей у Беларусі. Пераважна сёстры працуюць у буйных парафіях Гродзеншчыны і вядуць катэхезу для дзяцей і моладзі. З адказнай за працу з дзяўчатамі размаўляем пра сучасныя выклікі і перамогі хрысціянскіх фарматараў. А таксама пра тое, чаму спад пакліканняў – гэта не нагода для суму.**

на старонцы 5

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!



Адной з найважнейшых задач, якія ўскладзены на кожнае пакаленне людзей, з'яўляецца належнае і адказнае выхаванне моладзі. У цяперашні час паскораных культурных перамен яна становіцца чымсьці сапраўды актуальным.

У гэтай вялікай задачы выхавання моладзі прысутнічае таксама Касцёл, які жадае суправаджаць усіх маладых людзей у адкрыцці годнасці, паклікання і канчатковай мэты іх жыцця.

Святы Айцец Францішак у сваім навучанні вельмі часта заахвочвае маладзёнаў не баяцца слухаць Святога Духа, які падказвае ім адважныя рашэнні, і не марудзіць, калі сумленне патрабуе рызыкаваць, каб ісці за Настаўнікам.

Ахінём палымянай малітвай моладзь нашай дыяцэзіі, каб яна магла развіваць усё тое, што з'яўляецца багаццем яе жыцця, і знайсці тых, хто ёй у гэтым дапаможа!

ks. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**28 студзеня**

***Успамін св. Тамаша Аквінскага, прэзбітэра і доктара Касцёла.***

*Святы Тамаш лічыцца выдатным каталіцкім тэолагам і філосафам, найбуйнейшым навукоўцам Сярэднявечча. Ён аказаў глыбокі ўплыў на кірунак заходнехрысціянскай думкі. Заўсёды заўзята шукаў праўду, якой хацеў падзяліцца са светам. Рэалізуючы дамініканскі ўзор "перадаваць іншым намоленыя справы", усклікаў: "Я хацеў бы зразумець Бога!". Пра яго казалі, што "быў найвялікшым святым сярод навукоўцаў і найвялікшым навукоўцам сярод святых".*

**29 студзеня**

***Успамін бл. Баляславы Марыі Лямант, панны.***

*Блаславёная Баляслава, глыбока ўсхваляваная адсутнасцю адзінства Касцёла, заснавала ў 1905 годзе ў Магілёве Кангрэгацыю сясцёр Місіянерак Святой Сям'і, ставячы для яе канкрэтнай мэтай дзейнасць, накіраваную на аб'яднанне хрысціян і ўмацаванне каталікаў у веры. Яе характарызавала вялікая любоў да Эўхарыстыі і Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса, а таксама бязмерная апостальская і экуменічная руплівасць.*

**2 лютага**

***Свята Ахвяравання Пана (Маці Божай Грамнічнай).***

*Праз 40 дзён пасля Божага Нараджэння прыпадае свята Ахвяравання Пана, вядомае як свята Маці Божай Грамнічнай. Гэта ўспамін аб ахвяраванні Пана Езуса ў Ерусалімскай святыні і аб абрадзе ачышчэння, які здзейсніла Маці Божая. Свята замыкае шэраг урачыстасцей, звязаных з аб'яўленнем Свету Уцелаўлёнага Слова. Літургія ў апошні раз у гэтым годзе прадстаўляе нам Дзіцятка Хрыста.*

**3 лютага**

***Успамін св. Блажэя, біскупа і мучаніка.***

*Святы Блажэй пры жыцці непахісна абараняў веру. Лічыцца заступнікам урачоў і ўсіх, хто змагаецца з захворваннямі горла і галасавых звязак. Для сучасных людзей ён з'яўляецца прыкладам стойкага чалавека, які бязмежна даверыўся Богу. Аддаў сваё жыццё ў імя Езуса Хрыста. У дзень, калі Касцёл згадвае ў літургіі гэтага святога, у святынях удзяляецца г. зв. бласлаўленне св. Блажэя. Падчас цырымоніі святар дакранаецца да горла дзвюма скрыжаванымі свечкамі. Таксама бласлаўленне павінна абараняць ад інфекцый і зубнога болю.*

**5 лютага**

***Успамін св. Агаты, панны і мучаніцы.***

*Святая Агата – адна з самых шанаваных святых. У яе біяграфіі можам прачытаць, што яна была "прыгожая, маладая і нявінная, непахісная ў абароне хрысціянскай веры, за што і панесла пакутніцкую смерць". Да сёння захаваўся звычай бласлаўлення хлеба падчас св. Імшаў у дзень успаміну св. Агаты. Яго захоўваюць у дамах для абароны ад пажараў.*

# ВЫБРАЎ БОГА

працяг са с. 1

**Кс. Юрый Марціновіч**



catholicsaintmedals.com

Францішак нарадзіўся 21 жніўня 1567 года ў Высокіх Альпах недалёка ад Тарэнеса, як старэйшы з 13-ці дзяцей Францішка ды Буазі, кашталяна Нувеля, і Францішкі з роду Сённаз. Дома ён атрымаў глыбокае каталіцкае выхаванне, а найбольшы ўплыў на яго жыццё аказала маці, поўная міру, лагоднасці і працавітасці. Менавіта яе ў сваіх будучых навучаннях ён будзе прыводзіць як прыклад еднасці чалавека з Богам сярод шматлікіх штодзённых заняткаў.

**Св. Францішак Сальскі раіў вернікам старацца прыстасоўваць набожнасць да сваіх сіл, заняткаў і абавязкаў: "Набожнасць, калі яна дасканалая і шчырая, нічога не разбурае, але ўсё ўдасканальвае і дапаўняе".**

**Штогод у дзень успаміну св. Францішка Сальскага Папа абвяшчае пасланне на Сусветны дзень СМІ.**

### ЛЁС ЦІ ВЫБАР

Ужо пятнаццацігадовым юнаком ён пачаў вучыцца ў Парыжскім універсітэце. Спачатку вывучаў тэалогію і біблейскія пытанні, а таксама іўрыт і грэчаскую мовы. Пазней па парадзе бацькі пераехаў у Падую і пачаў вывучаць права, што павінна было адкрыць яму шлях да службовай кар'еры.

Падчас вучобы Францішка апанавалі сумненні: ці збавіцца, ці не наканавана яму асуджэнне. Верагодна, гэта было звязана з выступленнямі ў Францыі Кальвіна з вучэннем пра прызначэнне. Супакоіўся ён толькі тады, калі даверыў сябе апецы Маці Божай, просячы, каб Яна заўсёды была з ім.

Пасля заканчэння навучання Францішак адправіўся ў Ларэта, дзе ў 1591 годзе даў зарок цнатлівасці, а затым накіраваўся ў Рым. Калі вярнуўся дадому, у бацькі ўжо быў для яго гатовы план на будучыню. Той намерваўся ўвесці свайго сына як адваката і юрыста ў сенат у Шамберы. Прыклаў таксама намаганні, каб ажаніць яго з багатай спадчынніцай Францішкай Сушэ дэ Мірабель. Аднак Францішак, да вялікай незадаволенасці бацькі, рашуча адхіліў абедзве прапановы і ў 1593 годзе прыняў святарскае пасвячэнне.

### МІСІЯНЕР З ГУМАРАМ

Быў прызначаны пробашчам калегіума св. Пятра, што зрабіла яго другой асобай пасля мясцовага біскупа. Са згоды іерарха Францішак накіраваўся як місіянер у раён Шабле. Ён нястомна пераадольваў Альпы, хадзіў ад вёскі да вёскі, наведваючы хутары сялян. На сценах і агароджах расклейваў улёткі – сціслыя тлумачэнні праўд веры. Магчыма, таму Касцёл абвясціў св. Францішка Сальскага заступнікам каталіцкіх журналістаў.

У яго быў дар наладжваць кантакт з простымі людзьмі, умеў пераканаць іх у сваіх аргументах і кожную сустрэчу з іншым чалавекам "падфарбоўваў" добрым гумарам. Францішак ад прыроды быў схільны да парываў. Аднак, працуючы над сабой на працягу многіх гадоў, ён выпрацаваў у сабе такую далікатнасць і дабрыню, што яго пачалі прыраўнівалі да самога Хрыста. І ў рэшце рэшт сталі называць "свецкім сярод святых". У кантактах паміж людзьмі ён прытрымліваўся прынцыпу: "Больш мух зловіцца на кроплю мёду, чым на цэлую бочку воцату".

**Успамін св. Францішка Сальскага адзначаецца 24 студзеня.**

### ПРАВАДНІК ДЛЯ ТЫХ, ХТО ЖЫВЕ Ў СВЕЦЕ

Францішак стварыў новы ідэал набожнасці – вывеў з укрыцця духоўнае, унутранае жыццё, якое практыкавалася ў кляштарах, каб "яно паказвала дарогу тым, хто жыве ў свеце". У супрацоўніцтве са св. Жанай Францыўзай дэ Шанталь заснаваў новую манаскую сям'ю Сясцёр Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі (візіткі).

Памёр раптоўна ў Ліёне, вяртаючыся з сустрэчы з каралём Францыі 28 снежня 1622 года. Яго цела было перавезена ў Ансі, дзе спачыла ў касцёле Сясцёр Адведзінаў, а сэрца засталося ў візітак у Ліёне.

Беатыфікацыя адбылася ў 1661 годзе, а кананізацыя – праз чатыры гады. Папа Пій IX абвясціў св. Францішка Сальскага доктарам Касцёла ў 1877 годзе, а Пій XI у 1923 годзе – апекуном журналістаў і каталіцкай прэсы. Ён таксама шануецца як апякун візітак, салезіянаў і салезіянак – Таварыства св. Францішка Сальскага, заснаванага св. Янам Боско.

# ФАРМАЦЫЯ СЕМІНАРЫСТА – ШЛЯХ, ЯКІ РАСПАЧЫНАЕЦЦА ДА СЕМІНАРЫІ

працяг са с. 1

**Пра духоўную сталасць маладзёнаў, семінарыйныя будні і выхаванне клерыкаў размаўляем з прэфектам Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне кс. Янам Раманоўскім.**

*Размаўляла Ангеліна Марцішэўская*



**Кс. Ян Раманоўскі –** прэфект ВДС у Гродне (адказны за навучальны і выхаваўчы працэс). З 2015 па 2017 гг. навучаўся ў Наварскім Універсітэце ў Памплоне (Іспанія) па спецыяльнасці філасофія. Мае 10 гадоў святарства.

***– Кс. Ян, што за маладыя людзі прыходзяць у семінарыю?***

– Улічваючы тэндэнцыю, якая цяпер існуе, кантынгент семінарыстаў змяніўся. Раней, калі я паступаў, у большай ступені прыходзілі хлопцы адразу пасля школы або з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. Цяпер магу з упэўненасцю сказаць, што многія прыходзяць пасля значнага жыццёвага досведу (такіх 40%). Магчыма, хочуць паглядзець, ці не з'яўляецца іх жаданне пайсці ў семінарыю часовай эйфарыяй. Бо гэтае рашэнне на ўсё жыццё.

***– На духоўную сталасць семінарыстаў больш уплывае сям'я ці парафія?***

– Першапачаткова на рэлігійнае, духоўнае развіццё ўплывае сям'я. Таму што з яе чалавек выносіць каштоўнасці і прыярытэты. Нездарма шматлікія дакументы Касцёла кажуць пра тое, што сям'я – гэта хатні Касцёл. Гэта тое асяроддзе, дзе будучы семінарыст і святар вучыцца базавым рэчам. Аднаначна важнай з'яўляецца і фармацыя ў парафіі: прыклад святара, яго адданасць служэнню могуць натхніць маладога чалавека абраць адпаведны шлях.

Здараецца, канешне, што сям'я слабая ў плане веры і менавіта камунікацыя ў парафіі адкрывае голас паклікання. Кожны выпадак выключны. Нельга ставіць усіх пад адзін шаблон, нібы ўсе семінарысты бяруцца з канвеера. У тым і ёсць багацце, што клерыкі выходзяць з розных сем'яў і парафій.

***– У чым бачыце найбольшыя праблемы ў духоўнай сфарміраванасці алюмнаў?***

– Значная большасць семінарыстаў – гэта асобы, якія паходзяць з традыцыйных сем'яў, дзе практыкуецца вера, і з парафій, дзе добра наладжана парафіяльнае жыццё. Таму патрэбную фармацыю яны атрымліваюць і цяжка казаць пра нейкія праблемы. Што тычыцца Катэхізіса – маюць дастатковы ўзровень ведаў. Адзінае – нельга выключаць асабісты фактар – разуменне і ўспрыманне пэўных рэчаў кожным асобным чалавекам. Напрыклад, калі ў семінарыю прыходзіць хлопец 18-ці гадоў, і асоба, якая мае 26 гадоў, іх успрыняцце духоўнага жыцця будзе адрозніваецца ў любым выпадку. Важную ролю тут будзе адыгрываць "багаж" у якасці працы ці навучання ў ВНУ, перапынак ва ўдзеле ў жыцці Касцёла, пэўны жыццёвы крызіс і г. д.

***– Які працэнт з паступіўшых сыходзіць з семінарыі? У чым могуць быць прычыны?***

– Час семінарыйнай фармацыі – гэта таксама час распазнавання свайго жыццёвага шляху. Таму натуральна тое, што падчас навучання малады чалавек усведамляе, што трэба шукаць сябе ў іншым месцы. Усведамляе, што хоча служыць Богу, людзям, Касцёлу іншым чынам.

Не магу падаць працэнтныя суадносіны, колькі чалавек сыходзіць. Напрыклад, калі вучыўся я, на першым курсе нас было 12, на апошнім – 6. Аднак я не браў бы на сябе адказнасці казаць, што адсейвалецца палова.

Часам маладому чалавеку складана радыкальна змяніць свой лад жыцця: ён бачыць, што трэба жыць згодна з пэўным распарадкам дня, што адносна яго ёсць патрабаванні. Магчыма, ён уяўляў семінарыйнае жыццё інакш. Аднак усе патрабаванні існуюць не для таго, каб абмежаваць, а каб дапамагчы ў духоўнай і інтэлектуальнай фармацыі. Ідучы ў семінарыю, гэта трэба разумець. Дзеля паклікання трэба будзе адмовіцца ад пэўных рэчаў, дзеянняў. Дарэчы, хлопцу пасля школы працей "уліцца" ў семінарыйны распарадак, чым маладому чалавеку з пэўным жыццёвым досведам, які сам уладкоўваў сваю паўсядзённасць.

У канчатковым выніку, аднак, шмат што залежыць ад установак і самадысцыпліны самога кандыдата. Гоcпад дае пакліканне, і важна тое, як мы супрацоўнічаем.

***– Чаму маладыя людзі, якія прынялі рашэнне сысці з семінарыі, не становяцца актыўнымі свецкімі членамі супольнасці Касцёла? Яны ж першапачаткова хацелі прысвяціць яму жыццё.***

– У мяне ёсць досвед камунікавання з людзьмі з розных культур, і я сапраўды бачыў, наколькі важную ролю адыгрываюць ініцыятывы парафіян. Думаю, культурны фактар нашай краіны ўплывае і на згаданую сітуацыю. Многія ўспрымаюць удзел у парафіяльным жыцці як нешта анамімнае: схадзіў на св. Імшу ў нядзелю, паспавядаўся, калі адчуў патрэбу, прывёў дзяцей на катэхізу, прыняў святара з душпастырскім візітам – і дастаткова. Магчыма, думка "Навошта мне штосьці яшчэ рабіць?" знаходзіцца ў ментальным характары людзей. З іншага боку, ад свецкага чалавека актыўны ўдзел у парафіяльным жыцці патрабуе часу і старанасці, паміма яго сямейных і працоўных абавязкаў. Кожная ініцыятыва патрабуе пастаяннай руплівасці, бо не будзеш жа заўсёды пераліваць з пустога ў парожняе.

***– Вы як прэфект, адказны за выхаванне, якой стратэгіяй кіруецеся, на што звяртаеце ўвагу?***

– Нічога новага я не прыдумваў. Існуюць дакументы Касцёла, якія выразна рэгулююць працэс падрыхтоўкі да святарства. Між іншым, у іх гаворыцца, што першапачаткова прыкладам фармацыі будучых святароў з'яўляецца супольнасць 12-ці апосталаў. Гэта першая семінарыя вучняў, якую сабраў Хрыстос. Разам з Ім яны спасцігалі, як абвяшчаць Божае слова і гісторыю збаўлення. Пераймаючы гэта на сучасны лад, я як прэфект з'яўляюся толькі інструментам, што дапамагае кандыдату ў яго падрыхтоўцы. А Тым, хто фарміруе і выхоўвае, у першую чаргу, з'яўляецца Гоcпад.

Асабіста я намагаюся быць у пастаянным дыялогу з семінарыстамі, каб яны адчувалі сябе свабодна ў камунікаванні, не саромеліся казаць пра асабістыя праблемы і ўздымаць праблемы, якія ёсць у Каталіцкім Касцёле. Важна таксама, наколькі гэта магчыма, быць у "трэндзе" з імі, каб разумець выклікі сучаснасці. Бо не ўдасца будаваць дыялог, калі не размаўляеш на адной мове, і я не маю на ўвазе слэнг. Зразумела, ёсць і мяжа, якую трэба захоўваць. Калі семінарыст не прытрымліваецца норм, якімі мы жывём, павінны быць наступствы.

Трэба клапаціцца і пра вольны час навучэнцаў – гэта іх аб'ядноўвае. Ёсць біблійнае кола, якое вядзе духоўны айцец. Ёсць спартыўныя мерапрыемствы – раней шмат гулялі ў футбол, цяпер менш. Ёсць "кавярня" – пакой, дзе стаіць кавамашына, і клерыкі могуць зрабіць сабе напой, пагутарыць, адсвяткаваць супольна дзень нараджэння. Разам глядзім фільмы, часцей на рэлігійную тэматыку, але ёсць і выключэнні. Выбірае звычайна семінарыст, адказны за кінатэку, але параіцца з іншымі. Клерыкі любяць святкаваць "Андрэйкі", бо гэта добрая магчымасць адпачыць і ў крыху гумарыстычным кантэксце адлюстраваць семінарыйнае жыццё ў пастаноўках. Цяпер маем клерыкаў з розных дыяцэзій, і магу адзначыць, што маладыя людзі добра пасябравалі.

Аднак за выхаванне адказны не толькі прэфект, але і ўвесь прафесійны склад семінарыі. Больш за тое, за выхаваўчы працэс адказны святары з тых парафій, адкуль паходзяць кандыдаты. Бо мы назіраем іх, калі жывуць згодна з рэгуламінам, а пробашч ці вікарый могуць бачыць, як яны арганізуюць свой лад жыцця, будучы на канікулах.

***– Як упісаны ў жыццё семінарыі гаджэты, ці ёсць нейкія абмежаванні ў карыстанні? Як увогуле паўплывала з'яўленне смартфона на існаванне ў "закрытай" установе?***

– Мы жывём у XXI стагоддзі, прагрэс ідзе наперад, і нельга гэтага не ўлічваць. Трэба разумець, што клерык, заканчваючы семінарыю, выйдзе да людзей, да моладзі і, не меўшы кантакту з сучаснымі тэхналогіямі, будзе адчуваць сябе разгубленым, не зможа арыентавацца ў пэўных рэчах. Таму, зразумела, семінарысты карыстаюцца і тэлефонамі, і планшэтамі, і ноўтбукамі – але гэта ўсё прызначана ў першую чаргу для навучальнага працэсу. Разам з тым, існуюць і часовыя абмежаванні ў карыстанні гаджэтамі, таксама як ёсць час на малітву, абавязкі і г. д.

***– Чаму маладыя ксяндзы імкнуцца працаваць з моладдзю, а пасталеўшы, губляюць да гэтага цікавасць, хоць маглі б надалей дзяліцца назапашаным досведам?***

– Думаю, можа наступіць момант выгарання, аднак не прафесійнага, бо святарства не прафесія, а пакліканне. Мы служым незалежна ад таго, хто перад намі: малады чалавек, стары ці іншы кантынгент. Гэта, хутчэй, момант чалавечага выгарання, бо праца з моладдзю патрабуе дадатковай руплівасці, падрыхтоўкі, тонусу, так як неабходна нястомна пагружацца ў актуальныя для яе тэмы. Зразумела, можна растлумачыць штосьці згодна вучэнню Касцёла, але заўсёды ўмець тлумачыць на "мове" маладзёнаў – гэта ўжо іншая справа.

***– З чым, на Вашу думку, звязаны крызіс пакліканняў?***

– Па-першае, дэмаграфічная сітуацыя – дзяцей у сем'ях нараджаецца менш. Па-другое – і гэта можа быць камень у мой агарод, – недастаткова перакануачая пастава ксяндза. Важна паказаць сябе як святара не толькі ў касцёле, але і ў розных жыццёвых сітуацыях. Па-трэцяе, сучасная тэндэнцыя імкнення да большай свабоды. А ў Касцёле ёсць пэўная дысцыпліна, звязаная з паслухмянасцю, і не ўсе гэта прымаюць. Па-чацвёртае, паўсюдны матэрыялізм, а жыццё святара звязана са служэннем, не з жаданнем карысці. І апошняе – няспеласць маладых людзей, але гэта выражаецца не толькі ў негатоўнасці да святарскага служэння, але і да сувязі з адным чалавекам, ахвярнасці ў імя іншай асобы. Усё гэта фактары, што ўплываюць на крызіс пакліканняў.

## АКТУАЛЬНА

*Ватыканскае радыё*

### Лічбавы доступ да ватыканскіх крыніц аб Цэрквах Усходу

Дзякуючы міжнароднаму супрацоўніцтву, былі аблічбаваны неацэнныя рэсурсы бібліятэкі Папскага ўсходняга інстытута.

Гаворка ідзе пра сапраўды ўнікальную бібліятэку ў сусветным маштабе. Яе калекцыя налічвае каля 200 тысяч тамоў і каля тысячы назваў часопісаў. Сюды "эвакуіравалі" многія кнігі з Сірыі, Ірака, Лівана і Эфіопіі, ратуючы іх ад войнаў і іншых катаклізмаў. У бібліятэцы ёсць шмат кніг, забароненых у Савецкім Саюзе.

Дзякуючы набыццю высокатэхналагічнага сканера і дапамозе кампаній з ЗША і Германіі, якія прапанавалі сваю працу на дабрачыннай аснове, праца па аблічбоўцы калекцыі будзе працягнута. Ужо ў сярэдзіне 2022 года першыя тамы стануць даступныя глабальнай аўдыторыі без неабходнасці ехаць у Рым.

### Дыпламатычныя адносіны Святога Пасаду ў 2021 годзе

Зала Друку Апостальскай Сталіцы падзялілася інфармацыяй пра актуальны стан двухбаковых дыпламатычных адносін Святога Пасаду і змены, якія адбыліся ў гэтай сферы на працягу 2021 года.

Паведамляецца, што на сёння 183 краіны падтрымліваюць дыпламатычныя адносіны з Апостальскай Сталіцай. Да іх варта дадаць Еўрапейскі Саюз і Суверэнны Вайсковы Мальтыйскі Ордэн. 87 краін, у тым ліку ЕС і Мальтыйскі Ордэн, маюць пасольствы ў Рыме.

Адзначаецца, што ў Вечным горадзе знаходзіцца таксама прадстаўніцтвы пры Святым Пасадзе Лігі арабскіх краін, Міжнароднай арганізацыі па міграцыі і Вярхоўнага камісарыята ААН па справах бежанцаў.

### Каляндар папскіх цэлебрацый на бліжэйшы месяц

У Ватыкане быў апублікаваны расклад публічных цэлебрацый, якія Святы Айцец узначаліць на працягу двух бліжэйшых месяцаў.

Паведамляецца, што 2 лютага, у свята Ахвяравання Пана і 26-ты Сусветны дзень кансэкраванага жыцця, Пантыфік правядзе цэлебрацыю ў ватыканскай базіліцы разам з прадстаўнікамі розных інстытутаў кансэкраванага жыцця і таварыстваў апостальскага жыцця.

27 лютага Францішак здзейсніць аднадзённы візіт у Фларэнцыю, прымеркаваны да сустрэчы біскупаў і мэраў з Міжземнаморскага рэгіёна. Як паведаміла Служба папскіх літургічных цэлебрацый, св. Імшу з гэтай нагоды Пантыфік узначаліць у мясцовай базіліцы святога Крыжа.

### Малітоўныя інтэнцыі на люты

**паўсюдная**

Молімся ў інтэнцыі манахінь і іншых кансэкраваных жанчын – дзякуючы за іх місію і мужнасць, – каб надалей адкрывалі новыя адказы перад аблічам выклікаў нашых часоў.

**дыяцэзіяльная**

Молімся, каб Пан блаславіў новых членаў Жывога Ружанца ў нашай дыяцэзіі, а таксама развіццё гэтай справы.

# ПАТРАНАЛЬНАЕ СВЯТА ПАЎЛІНАЎ АДЗНАЧЫЛІ Ў КАРЭЛІЧАХ

**Урачыстасць св. Паўла Першага Пустэльніка, патрыярха ордэна паўлінаў, адбылася 15 студзеня ў парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў Карэлічах (дэканат Навагрудак), дзе ўжо 29 гадоў служаць айцы паўліны.**




*Кс. Юрый Марціновіч*

Манаская супольнасць на працягу дзевяці дзён рыхтавалася да ўрачыстасці навэннай да св. Паўла Пустэльніка. Гэта асаблівы час у жыцці айцоў і братоў паўлінаў – як для карэліцкай супольнасці, так і для тых, хто служыць у кляштарах па ўсім свеце, – каб засяродзіцца на галоўнай мэце і харызме паўлінскага жыцця, якой з'яўляецца ідэя сузірання Бога ў адзіноце – "Solus cum Deo solo" ("Сам-насам з Богам").

Урачыстую св. Імшу разам з запрошанымі святарамі ў намеры Ордэна Святога Паўла Першага Пустэльніка цэлебраваў Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.

Падчас Эўхарыстыі айцы Ежы Саковіч і Ануфрый Альховік, якія служаць у парафіі, аднавілі манаскія абяцанні цнатлівасці, беднасці і паслухмянасці.

Напрыканцы св. Імшы іерарх удзяліў дзецям асаблівае блаславенне, прызначанае на гэты дзень, бо св. Павел, патрыярх ордэна паўлінаў, лічыцца асаблівым заступнікам і апекуном дзяцей, а таксама маці, якія чакаюць патомства.

Пры выхадзе са святыні кожны ўдзельнік літургіі атрымаў салодкі пачастунак – між іншым, фінікі і інжыр. Гэта плады пустыні, дзе 90 гадоў у самотнасці правёў св. Павел.

Таксама вернікі атрымалі бохан хлеба. Менавіта падчас гарачых малітваў у пустыні святы атрымліваў палову хлеба, які штодня прыносіў яму крумкач. А калі св. Павел быў блізкі да смерці, яго наведаў св. Антоній, пустэльнік, у той дзень крумкач прынёс цэлы бохан.

Біскуп Кашкевіч падзякаваў айцам паўлінам за руплівае служэнне ў карэліцкай парафіі, за духоўную апеку над даручанымі ім вернікамі і за ўсе ініцыятывы манахаў. А таксама пажадаў парафіяльнай супольнасці развівацца далей, збіраючыся ў аднаўленым храме, які захапляе сваім малітоўным настроем і прыгажосцю.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ПОЛЬШЧА.** Больш за 9 тон ежы было раздадзена 44-ом парафіяльным супольнасцям "Карытас" Вроцлаўскай архідыяцэзіі. Дзякуючы гэтаму можна будзе падрыхтаваць некалькі тысяч пакетаў для людзей, якія карыстаюцца падтрымкай у парафіях. "У асартыменце мясныя кансервы, паштэты, гатовыя стравы, масла, цукар, макароны, мука, агародніннныя кансервы і вада", – кажа Роберт Ядвішчак, дыяцэзіяльны каардынатар парафіяльных супольнасцей "Карытас". Падарункі дапаўняюцца прадуктамі, сабранымі падчас збору сродкаў у крамах і касцёлах.

**ІРЛАНДЫЯ.** Па дадзеных Ірландскага таварыства каталіцкіх святароў, у гэтай краіне за тры гады памерла больш за 21% ксяндзоў і манаскіх братоў – як тых, якія яшчэ служаць, так і пенсіянераў. Гэта значыць, што працягнецца закрыццё касцёлаў і спалучэнне парафій. У 2014 годзе колькасць дыяцэзіяльных святароў складала прыкладна 2070. Пад канец 2018 года яна знізілася да 1800. Некаторыя з 720 святароў на пенсіі працягваюць дапамагаць у служэнні. Згодна з гэтай статыстыкай, ад 2019 да верасня 2021 года памерлі 496 манахінь і 520 ксяндзоў і манахаў. Спіс большасці смерцяў духавенства Ірландыі штогод публікуецца ў "Irish Catholic Directory", афіцыйным даведніку Каталіцкага Касцёла ў краіне.

**ФРАНЦЫЯ.** У двух касцёлах у дыяцэзіі Сен-Дэні пад Парыжам адбыліся прафанацыі, крадзяжы і разбурэнні. Аналагічны выпадак зафіксаваны ў касцёле Сен-Жэрмен у Вітры-сюр-Сен у дыяцэзіі Крэтэй. Ва ўсіх трох выпадках дайшло да апаганьвання Найсвяцейшага Сакраманту, узлому скарбонак, крадзяжу літургічнага абсталявання і іншых пашкоджанняў. Падобны інцыдэнт адбыўся таксама ў касцёле Сен-Жэрмен-л'Асерруа ў Раменвілі, размешчаным у цэнтры горада.

**ІНДЫЯ.** Вярхоўны суд Паўднёвай Індыі ў Тамілнадзе адхіліў апеляцыю каталіцкага святара па абвінавачванні ў раненні рэлігійных пачуццяў індуістаў. Абвінавачванне кс. Джорджа Поная тычыцца, між іншым, распаўсюджвання рэлігійнай варожасці паміж рознымі групамі на рэлігійным фоне і разбурэння грамадскай гармоніі. Злачынства мела адбыцца 18 ліпеня 2021 года падчас грамадскага мітынгу, праведзенага ў Аруманаі, вёсцы ў раёне Каньякумары, у рамках акцыі пратэсту супраць загаду закрыць касцёл з-за пандэміі.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# ДАТЫКАЮЧЫСЯ ДА БЛАСЛАЎЛЁНАГА

*працяг са с. 1*

**З чым мы асацыіруем маладосць? З актыўнасцю, рухам наперад, амбіцыямі, радасцю, весялосцю. Між іншым, чалавека з такімі паводзінамі і рысамі можна назваць маладым незалежна ад узросту (маладым сэрцам ці маладым духам, мы кажам), бо не заўсёды ў 20, 25 альбо 30 гадоў асоба паводзіць сябе менавіта так.**

*Кацярына Паўлоўская*

Італьянец П'ер Джорджыа Фрасаці быў маладым і ўзростам, і сэрцам. Ён памёр, маючы 24 гады – у 1925 годзе. У 1990 годзе, 6 красавіка, папа Ян Павел II абвясціў маладзёна блаславёным і назваў яго чалавекам васьмі дабраслаўленняў. Што такога паспеў зрабіць на сваім жыццёвым шляху П'ер Джорджыа Фрасаці?

Хлопец нарадзіўся ва ўплывовай і забяспечанай сям'і. Мамант яго нараджэння Лучыяна, родная сястра, у сваёй кнізе, прысвечанай асобе блаславёнага, апісвае так: ***"Званы, якія некалькі гадзін таму білі, абвяшчаючы Уваскрасенне, абвяшчалі таксама новае жыццё: у Вялікую суботу, 6 красавіка 1901 года, у 18.30 у Турыне нарадзіўся П'ер Джорджыа".***

Яго айцец быў журналістам, заснавальнікам газеты і сенатарам, маці – мастачкай. Паміж імі не заўсёды былі цёплыя адносіны. Лучыяна нават піша аб тым, што іх маці Адэлаіда ў маляванні знаходзіла пэўную "кампенсацыю за расчараванне ў сужэнстве". Нягледзячы на гэта, П'ер Джорджыа любіў



абодвух бацькоў і да абодвух быў прывязаны. У той жа час сыноўскія пачуцці не заміналі яму весці самастойнае жыццё, стыль якога момантамі вельмі адрозніваўся ад штодзённасці яго сям'і, якой мала што было вядома аб гэтым.

Турынскі хлопец, сын сенатара, быў актыўным маладым чалавекам. П'ер Джорджыа любіў альпінізм і часта выбіраўся ў горы самастойна ці з кампаніяй, добра плаваў, умеў ездзіць конна, а таксама шмат перамяшчаўся на веласіпедзе. Ён быў кампанейскай асобай. З сябрамі нават заснаваў "Таварыства цёмных тыпаў".

П'ер Джорджыа вёў дынамічнае духоўнае і сацыяльна ангажаванае жыццё. Быў удзельнікам руху "Каталіцкая акцыя", Універсітэцкай канфедэрацыі італьянскіх католікаў, а таксама Канферэнцыі таварыства св. Вінцэнта дэ Поля. З-за гэтага ён не заўсёды паспяваў з навучаннем, да якога, як і да іншых абавязкаў, як піша сястра, маладзён падыходзіў ***"скрупулёзна", "вучыўся сумленна і не паддаваўся спакусе аблегчыць сабе штосьці дзякуючы сувязям".*** У той жа час ён ***"навучанню прысвячаў толькі частку дня і, хоць лічыў яго сваім першым абавязкам, часта сядаў за кнігу толькі пасля доўгага абыходжання бедных, пасля сходу Канферэнцыі св. Вінцэнта ці пасля ночы, праведзенай на адарацыі".***

Як член таварыства П'ер Джорджыа дапамагаў бедным і хворым асобам, наведваў убогія сем'і ў розных, часам зусім не прэстыжных раёнах Турына. Наведваў, каб дапамагчы і матэрыяльна, і духоўна. І рабіў гэта рэгулярна. Лучыяна апісвае так: ***"Але П'ер Джорджыа не спыняўся на матэрыяльнай падтрымцы бедных. [...] Калі ён ужо уручыў ахвяраванне беднякy, заставаўся яшчэ на хвіліну, каб пагаварыць з ім; распытваў пра дом, пра дзяцей, пра дробныя будзённыя клопаты".*** Аднойчы ён вярнуўся дадому ***"ў хатніх лапцях, бо свае чаравікі падарыў нейкаму бедняку".***

***"Што мог шукаць такі малады чалавек, як П'ер Джорджыа – з багатай сям'і, адзіны спадчыннік значнага маёнтка, – у самых бедных кварталах горада, у дамах, заклеймленых заганамі і грахом, калі не гвалтам і злачынствам?".*** Так апісала ў сваёй кніжцы здзіўленне адной асобы сястра. У адказ П'ер Джорджыа сказаў: ***"Езус наведвае мяне ў св. Камуніі кожную раніцу, а я аддзячваю Яму сціплым, даступным мне спосабам: наведваю Яго бедных".***

Яго дапамога патрабуючаму насельніцтву Турына была такой глыбокай і маштабнай, што на яго пахаванне зышліся шматлікія жыхары бедных раёнаў горада, тыя, каму ён дапамагаў.

П'ер Джорджыа памёр 4 ліпеня 1925 года ў выніку хваробы, якой заразіўся ад аднаго са спаткаených на свім шляху хворых. У гэты ж дзень на парозе яго дома пачалі з'яўляцца незнаёмыя асобы. Яны заходзілі ў пакой з целам памерлага і датыкаліся да яго, як да рэліквіі. ***"Усё гэта адбывалася ў нас на вачах – у нас, якія на працягу стольких гадоў не ведалі пра яго нічога, і вось цяпер незнаёмыя людзі даюць нам вялікі ўрок",*** – напісала Лучыяна.

Св. Ян Павел II у дзень беатыфікацыі ахарактарызаваў П'ера Джорджыа так: ***"Моц Духа праўды, з'яднанага з Хрыстом, зрабіла яго сучасным сведкам надзеі, якая выцякае з Евангелля, і ласкі збаўлення, якая дзейнічае ў чалавечым сэрцы. [...] Вера і любоў – сапраўдная крыніца яго жыццёвай энергіі – паспрыялі таму, што ён вёў вельмі актыўнае і адданае жыццё ў сваім асяроддзі, у сям'і і ў школе, ва ўніверсітэце і ў сацыяльнай сферы; пераўтварылі яго ў радаснага і поўнага энтузіязму апостала Хрыста, у заўзятага паслядоўніка Яго пасланяў і Яго любові. [...] Цалкам пагружаны ў Божую Таямніцу, цалкам аддадзены служэнню бліжняму – так можна коратка апісаць яго знаходжанне на зямлі".***

# МЭТА НЕ НАБІЦЬ КЛЯШТАР ПАКЛІКАННЯМІ, А ПАКЛАПАЦІЦЦА ПРА МАЛАДОГА ЧАЛАВЕКА




**С. Назарыя Міклаш CSFN** – назарэтанка, адказная за пакліканні ў Кангрэгацыі. Катэхетка парафіі св. Яна Евангеліста і св. Максімільяна Кольбэ ў Мінску. Працавала ў Гродне, Навагрудку і Лідзе. Паходзіць з Гродна.

*працяг са с. 1*

***Размаўляў Арцём Ткачук***

***– Сястра Назарыя, ужо некалькі гадоў Вы займаецеся арганізацый рэкалекцый для дзяўчат. З чым звязаны такі падзел?***

– У нашай супольнасці ёсць сёстры, якія займаюцца рознымі служэннямі, акрамя парафіяльных. Хтосьці настаяцельніца, хтосьці працуе з сем’ямі, хтосьці збірае гісторыю Кангрэгацыі. У мяне праца з дзяўчатамі.

***– Гэта так званая праца над новымі пакліканнямі?***

– Так. Такой ідэя майго служэння была спачатку. Часта дзяўчына хоча паглядзець, як жывуць сёстры, аднак паасобку гэта можа быць боязна. Таму ёсць такія сустрэчы, на якіх можна проста пазнаёміцца, даведацца пра манастыр, сясцёр. Пазней дзяўчаты ўжо просяць асобныя сустрэчы ці проста пажыць у кляштары і паглядзець, як гэта ўсё выглядае.

Такой ідэя была і часткова такой застаецца. Пытанне паклікання ёсць, аднак усё засноўваецца на паглыбленні адносін з Богам. Гэта асноўная мэта. Падчас рэкалекцый праводзяцца канферэнцыі, разважанні, майстар-класы, забавы, фільмы. Мы пачалі практыкаваць начныя адарацыі, і цікава, што менавіта яны найчасцей з’яўляюцца самым моцным успамінам з рэкалекцый ва ўдзельніц.

***– А якія Вы бачыце мінусы рэкалекцый выключна для дзяўчат, без хлопцаў?***

– Можа быць, калі б былі хлопцы, дзяўчаты болей стараліся б *(смяецца – заўв. аўт.)*. На дадзены момант я займаюся школьніцамі 8-11 класаў, таму сустрэчы вельмі радасныя. А з хлопцамі маглі б быць яшчэ больш раднаснымі.

Увогуле ёсць думкі арганізацыі сустрэч супольна з хлопцамі, аднак у бліжэйшы час гэта не будзе рэалізавана. Трэба цалкам перастройваць праграму. На дадзены момант у нас збіраецца 40 дзяўчат, калі дадаць да гэтага хлопцаў… Тут трэба будзе думаць яшчэ пра наладжванне дысцыпліны.

***– А дзяўчаты пытаюцца наконт удзелу хлопцаў у рэкалекцыях?***

– Так, пытаюцца. Я нават больш скажу – ёсць хлопцы, якія пытаюцца: “А чаму мы не ездзім з дзяўчатамі на рэкалекцы?” *(смяецца – заўв. аўт.)*. Побач з хлопцамі дзяўчаты сябе інакш паводзяць, прысутнічае натуральны для іх узросту флірт. У падлеткаў камунікацыя базуецца на адносінах адзін з адным, ёсць вельмі моцнае натуральнае палавое прыцягненне, гэта нармальныя рэчы. У нас хлопцаў няма, таму гэты момант адсутнічае і гэта дапамагае канцэнтравацца на галоўным.

З хлопцамі дзяўчаты бачацца часта: зносіны ў школе, на гуртках. А ў нас жаночы клуб. Некаторыя тэмы прасцей раскрываць у вузкім калектыве. Я толькі за, каб дзяўчаты і хлопцы камунікавалі, аднак нашы рэкалекцыі канцэнтруюцца на камунікацыі з Богам. Таму жонак могуць шукаць на парафіях, а рэкалекцыі ў нас цягнуцца ўсяго 3-4 дні.

***– На якія тэмы сёння робіце ўпор падчас сустрэч?***

– Першае і цэнтральнае месца займаюць адносіны да Бога. Гэта эпіцэнтр і аснова. Таксама мы шмат працуем над адкрыццём сваёй жаноцкасці. Напрыклад, пытанні “Ці прыгожая я?”, “Наколькі я каштоўная?” у дзяўчат у гэтым узросце вельмі актуальныя. Ёсць шмат сямейных ран, сітуацый непрыняцця сябе. Таму тэма, што толькі Бог можа запоўніць голад іх сэрцаў, таксама вельмі актуальная.

***– Гэта супадае з чаканнямі дзяўчат? З якімі пытаннямі яны прыязджаюць на рэкалекцыі?***

– На рэкалекцыях падчас знаёмства дзяўчаты агучваюць свае чаканні. Пераважваюць два – паглыбленне адносін з Богам і новыя знаёмствы. Таму ў прынцыпе яны заўсёды задаволены нашымі тэмамі. Шукаем іх на малітве, таксама раімся з нашымі сёстрамі, якія працуюць у розных парафіях: што сёння актуальна, што яны бачаць у дзяўчат. У пошуку тэм зыходзім з гэтага.

Увогуле ідэальных сем’яў не бывае, і кожная наша ўдзельніца прыязджае са сваімі траўмамі. У 10-11 класах большасць клапоціць пытанне “Які мой шлях, што далей рабіць у жыцці?”. Тут і выбар, куды паступаць, і дылема, што будзе, калі не атрымаецца. Гэта часта выклікае разгубленасць і страх, які забірае супакой сэрца.

8-9 клас – гэта больш пра прыняцце сябе, прыгажосць, з якой стварыў мяне Бог. Шмат рэчаў прагаворваеш, у розныя моманты ў дзяўчат з’яўляюцца слёзы. Вядома, многае яны не могуць сказаць публічна, таму такое прагаворванне вельмі эфектыўнае.

Многія дзяўчаты ўжо выхаваны нашымі сустрэчамі. Я бачу, што ёсць патрэба ладзіць асобныя рэкалекцыі для старэйшых дзяўчат, бо ім ужо не асабліва цікава з малодшымі.

***– А ці ёсць пачуццё, што пасля рэкалекцый назарэтанкі робяцца сяброўкамі для гэтых дзяўчат, старэйшымі сёстрамі?***

– Так, ёсць такое. Я падтрымліваю кантакт з дзяўчатамі з маіх папярэдных парафій. Не скажу, што гэта нейкае духоўнае кіраўніцтва. Умоўна кажучы, дзяўчына можа даслаць мне фота залікоўкі і падзяліцца, што здала экзамен, ці проста спытацца, як справы. Простыя чалавечыя зносіны.

***– Яшчэ 10-15 гадоў таму рэкалекцыі для моладзі былі ў большасці рэкалекцыямі паклікання. Націск рабіўся на выбар жыццёвага шляху – ісці ў кляштар ці не. Сёння ўсё інакш, акцэнты значна змяніліся. Адкуль гэта ўзялося?***

– Думаю, гэта таксама сталенне Касцёла. Назіраючы, сёстры заўважылі больш пільную патрэбу: галоўнае не само пакліканне, а адносіны з Богам. Пакліканне – толькі сродак. Мэта ж – быць з Усемагутным. Мы зразумелі, што не хапае асновы, і недахопы ў фундаментальных рэчах змянілі накірунак.

***– Калі пакліканняў сёння ўвогуле мала, то ў жаночыя кангрэгацыі іх яшчэ меней. Тэма ісці ці не ісці ў кляштар увогуле існуе сярод дзяўчат?***

– Існуе. Яна актуальная. Ёсць пытанне страхаў, непадтрымкі з боку сям’і. Я ўсім раю ісці вучыцца, яны прыходзяць зусім яшчэ зялёныя.

***– Аднак адзінкі з іх пазней робяць практычныя крокі.***

– Маё меркаванне такое: няўжо ў Беларусі не хапае святароў? Мне падаецца, колькасна хапае. З сёстрамі гэтак жа. Ці ёсць насамрэч патрэба ў вялікай колькасці пакліканняў? Я бачу, што Госпад вельмі шмат дзейнічае праз свецкіх. Дастаткова паглядзець, колькі з’яўляецца супольнасцей і які аб’ём працы яны там робяць.

Касцёл – гэта не толькі сястра і ксёндз, але і ўсе парафіяне. І калі не хапае сястры, то хтосьці з вернікаў выконвае неабходную паслугу, бо ён ці яна таксама частка Касцёла. Таму я падыходжу да гэтай матэрыі з пытаннем: “Можа, іх і не трэба столькі?”. Мэта ж не ў тым, каб нас было шмат. Пытанне ў якасці. Служэнне выконваецца, Евангелле распаўсюджваецца – значыць усё нармальна.

***– То-бок, дзяўчаты амаль не ідуць у манастыр, аднак Бога выбіраюць і ідуць іншай дарогай. Гэта гучыць вельмі пазітыўна.***

– Так, менавіта. У тым і мэта. Не набіць кляштар пакліканнямі, а паклапаціцца пра канкрэтнага чалавека, пра яго жыццё.

***– Вы таксама паходзіце з парафіяльнай моладзі, ездзілі на рэкалекцыі. Наколькі змяніліся сучасныя маладзёны?***

– Складанае пытанне. Ёсць адназначны ўплыў сацыяльных сетак і доступу да інтэрнэту. У наш час такога не было. Цяпер, напрыклад, цяжка знайсці фільм для супольнага прагляду, які б яны не глядзелі. Хоць двойчы ў мяне ўсё ж атрымалася *(смяецца – заўв. аўт.)*.

Калі глядзець з боку любові, прыняцця – мне падаецца, яны сталі яшчэ лепшымі. Яны больш глыбокія. Я асабіста вельмі задаволена нашымі дзяўчатамі, мая група ў Мінску вельмі класная. З іх проста фантануе радасць і жыццё, у іх столькі энергіі!

***– Якой працы з дзяўчатамі сёння не хапае, што можна было б развіваць актыўней?***

– Ёсць у мяне ідэя, але пакуль не ведаю, як гэта рэалізаваць, – выхоўваць дзяўчат для служэння. Каб яны дзейнічалі ў парафіях, былі адказнымі за штосьці. У маёй парафіі ў Мінску ўся моладзь у нечым задзейнічана: адны дапамагаюць развіваць Эўхарыстычны рух моладзі, іншыя вядуць наш сайт jan.by. То-бок, неабходна таксама граматнае патрабаванне: штосьці зрабілі для вас, цяпер вы паслужыце іншым. На дадзены момант я бачу такі накірунак.

***– А ёсць нейкія мары ў плане працы з дзяўчатамі? Чаго б хацелі дасягнуць?***

– Я б хацела звазіць маіх дзяўчат у Рым. Ці ў горы. Зрабіць такое падарожжа. Існуе таксама план зладзіць сустрэчу ў Гродне, дзе ёсць старэйшыя сёстры, дзе можна з імі паразмаўляць, пахадзіць па розных касцёлах. Мару пра нейкія такія падарожжы, каб крыху змяніць фармат сустрэч і блізкасці з Богам.




*Рэкалекцыі для дзяўчат у Гродзенскай дыяцэзіі прапануюць амаль усе жаночыя манаскія супольнасці*

**Назарэтанскія рэкалекцыі для дзяўчат 8-11 класаў адбываюцца чатыры разы ў год. Падчас канікул летам, восенню, зімой і вясной. Калі Вы хочаце ўдзельнічаць у сустрэчах ці далучыцца да руху, кантактуйцеся з с. Назарыяй па тэлефоне (8 033) 621-44-22.**

# КАСЦЁЛ “У ТРЭНДЗЕ”, А МОЛАДЗІ МЕНШ?



***Яна Чайко***

Чым далей крочыць прагрэс, тым цяжэй утрымаць моладзь у Касцёле. Усё традыцыйнае ўспрымаецца як нецікавае і нямоднае. Аднак сённяшняя моладзь, як мне падаецца, больш шукае праўды. Ёсць шмат тых, хто верыць, але не можа знайсці ў Касцёле сваё месца.

Робіцца ўсё, каб быць “у трэндзе”. Ужо ў часы майго быцця ў моладзевай парафіяльнай супольнасці (а гэта пачалося 10 гадоў таму) мы збіраліся глядзець фільмы, пасля якіх абавязкова заставалася думка на разважанне; дзяліліся рэлігійнымі карцінкамі ў сацыяльных сетках і пісалі ў суполкі малітоўныя просьбы. За каўбаскамі і гарбатай размаўлялі пра духоўнае, даведваліся цікавыя гісторыі з жыцця святых і з жыцця нашых сясцёр і святароў.

Сёння я бачу, што Касцёл пайшоў яшчэ далей: парафіі, святары, сёстры і нават біскупы камунікуюць з моладдзю праз сацыяльныя сеткі. З-за пандэміі з’явіліся анлайн-катэхезы і нават анлайн-ружанцы. Сёння ёсць вялікі выбар ксяндзоў-блогераў, якія праводзяць анлайн-рэкалекцыі, публікуюць штодзённыя разважанні над Евангеллем…

Аднак мне падаецца, што ў беларускім Касцёле ўсё роўна моладзі становіцца менш. Напэўна, гэта звязана з разнастайным выбарам анлайн-сустрэч, удзельнічаючы ў якіх маладзёны не бачаць неабходнасці сустракацца ў рэальнасці. Але ж тады не будуецца супольнасць, якая мае вельмі важнае значэнне для хрысціянскага развіцця.

Мне вельмі пашанцавала сталець у сапраўднай супольнасці. На працягу васьмі гадоў змяняліся святары, сёстры, моладзь, але тыя сябры, якіх я пазнала ў супольнасці, да сёння побач. Мы сустракаемся ў розных гарадах і краінах, дзелім нашы перамогі і слёзы, молімся адзін за аднаго, асабліва ў час патрэбы. Пры гэтым заўсёды ўспамінаем наш час у супольнасці, калі разам ездзілі на Дні моладзі, хадзілі ў пілігрымкі і рабілі ўрокі “на сальцы”.

Я далей падтрымліваю сувязь з сёстрамі і ксяндзамі, якія мяне выхавалі. Мае бацькі высылаюць ім віншаванні са святамі і з удзячнасцю ўспамінаюць іх ролю ў маім узрастанні.

Мне вельмі сумна глядзець, як моладзь не хоча сёння будаваць супольнасць у Касцёле. Іх удзел у жыцці парафіі вельмі часта заканчваецца ўдзелам у св. Імшы, а можна было б пайсці ў міністранты ці ў хор. Тады жыццё адкрые шмат новых магчымасцей: розныя паездкі, незлічоная колькасць знаёмстваў і вельмі добры вопыт. Але самае каштоўнае – духоўнае развіццё. Бацькі ж могуць быць спакойнымі: у каталіцкім асяроддзі іх дзеці не трапяць у гэтак званую “дрэнную кампанію”, адкрыюць для сябе новыя хобі і на вачах будуць станавіцца лепшымі.

ЭКАЛАГІЧНАЯ ЦНОТА



Алена Майсюк

# ХІМІЧНАЯ БЯСПЕКА ДЛЯ АРГАНІЗМА ЧАЛАВЕКА

**Вялікую частку часу чалавек праводзіць унутры памяшканняў. На арганізм уплываюць матэрыялы, з якіх зроблены будынак, прадметы побыту і тое, чым мы карыстаемся для падтрымання чысціні. Даведайцеся, як стварыць здаровыя ўмовы для сябе і блізкіх дома і на працы, каб заставацца здаровым.**

Алергія, рыніт, пяршэнне ў горле, сверб скуры, расстройства цэнтральнай нервовай сістэмы – гэта прыблізны спіс адмоўнага ўплыву рэчываў і матэрыялаў на чалавека. Вазьміце адказнасць за сваё здароўе на сябе. Для гэтага ўважліва вывучыце прастору, у якой знаходзіцеся.

### СЦЕНЫ, ПАДЛОГА І СТОЛЬ

Жалезабетонныя будынкі ствараюць моцную экранізацыю электрамагнітных палёў. Калі вы заўважаеце, што мабільны інтэрнэт дрэнна "цягне" ў памяшканні і толькі каля акна можна ўлавіць сувязь, гэта паказчык ізаляванасці памяшкання ад знешняга свету. У такой прасторы скажаецца натуральнае электрамагнітнае поле, павялічваецца выпраменьванне ад мабільных прылад у пошуку сувязі, чалавек не адпачывае.

У начны час арганізм, апроч аднаўлення энергіі, займаецца самаачысткай. Калі чалавек знаходзіцца ў такой ізаляванай прасторы, арганізм не зможа ачысціцца і ў далейшым звяртаецца да радыкальнай меры – хваробы. На прыкладзе прастуды мы бачым, як выходзіць залішняя слізь, павялічваецца тэмпература. Гэта ўсё адбываецца для экстранага ачышчэння цела.

Прыгожы "еўрарамонт" яшчэ не паказчык правільнага для здароўя памяшкання. Вінілавыя шпалеры, нацяжная столь, пластыкавыя вокны, мэбля з ДСП, лакафарбавае пакрыццё, лінолеум, ламінат, апрацаваная ахоўным саставам драўніна маюць уласцівасць вылучаць у паветра хімічныя рэчывы. Калі ў здаровага чалавека вечарам пачынае пяршыць у горле, варта прааналізаваць, што ў інтэр'еры можа быць крыніцай раздражнення слізістай абалонкі.

З часам любы пластык пачынае разбурацца і выдзяляць рэчывы, якія выкарыстоўваліся пры яго вытворчасці. У кліматычнай паласе, дзе ёсць вялікія перапады тэмпературы ад марозу да спякоты, хутка выходзяць са строю вокны ПВХ, яны беспярыпынна пачынаюць вылучаць дабаўкі і стабілізатары. Акрамя таго, ад залішняга ўтрымання пластыку ў быце можа з'яўляцца статычная электрычнасць. Гэта з часам пагражае збоямі ў сардэчна-сасудзістай і цэнтральнай нервовай сістэме.

У вытворчасці мэблі, напрыклад, выкарыстоўваецца фармальдэгід. Яго не ўжываюць пры вытворчасці дзіцячай мэблі, бо ён з'яўляецца вельмі моцным разбуральнікам эндакрыннай (ахоўнай) сістэмы чалавека. І калі ён з часам выветрываецца, то лакіраваная мэбля, наадварот, пачынае павялічваць выкід у паветра атрутных рэчываў. Гэта адбываецца з-за ўступлення ў рэакцыю розных кампанентаў лаку, што з'яўляецца натуральным ходам раскладання хімічных саставаў.

### БЫТАВАЯ ХІМІЯ І АРГАНІЧНЫЯ ЗАБРУДЖВАЛЬНІКІ

Калі ў памяшканні ёсць ёмістасці з бытавой хіміяй, іх варта трымаць шчыльна зачыненымі і далей ад абагравальных прыбораў. Інакш лятучыя рэчывы аказваюцца ў паветры, пры ўдыханні трапляюць у арганізм. Могуць асядаць на прадметы ці пыл, што гэтак жа павышае верагоднасць трапіць унутр чалавека, выклікаць раздражненне скуры.

Значкі "Бія" або "Эка" не даюць гарантыю здаровага ўплыву на арганізм. Для гэтага ёсць прыродныя ачышчальнікі. Напрыклад, попел добра ўбірае тлушчы і выдатна паліруе паверхню, не пакідаючы драпін. Сода, гарчыца, воцат, соль, лімонная кіслата абеззаражваюць прадметы ўжытку і нейтральныя пры трапленні ў невялікіх колькасцях у арганізм. У штучных мыйных сродкаў ёсць уласцівасць ствараць плёнку на паверхні. Высахшы на посудзе, у далейшым сродак для мыцця апынецца ў органах стрававання.

Вада – лепшы растваральнік, калі яна мяккая. Аднак пры вялікім утрыманні мінеральных рэчываў яна не здольная адмыць забруджванні, напрыклад, на адзенні. Для гэтага выкарыстоўвайце харчовую ці, што яшчэ больш эфектыўна, кальцынаваную соду. Воцат, лімонная кіслата, марская і пабараная соль гэтак жа выдатна падыдуць і для касметычных мэт.

### ПРЫТОК СВЕЖАГА ПАВЕТРА

Тэмпературны рэжым і вільготнасць паветра ўплываюць на чалавека і прадметы інтэр'еру. Павышаная тэмпература павялічвае хуткасць хімічных рэакцый. Мароз, наадварот, запавольвае, але хутчэй разбурае тое, у чым утрымліваецца вільгаць. Сырасць правакуе размнажэнне хваробатворных арганізмаў, у тым ліку цвілі. Сухасць паветра абязводжвае арганізм, павялічвае хуткасць распаўсюджвання пылу.

Здароўе захоўваецца пры вільготнасці 50-60%, тэмпературы 18-20°С і рэгулярным праветрыванні памяшкання.

# ПРАСЛАЎЛЯЦЬ, ПІШУЧЫ

Анжаліна Марцішэўская

**Пэўна, многія з нас песцяць у глыбіні сэрца думку аб тым, каб хаця ў чым пераймаць святых. У выпадку са св. Францішкам Сальскім гэта падаецца куды больш рэальным да здзяйснення. Св. Францішак з'яўляецца заступнікам каталіцкіх СМІ і атрымаў гэтую "пасаду" дзякуючы свайму ўменню дзяліцца праўдамі веры простым і зразумелым для ўсіх спосабам. Даступныя ўсім тлумачэнні Пісання ён распаўсюджваў, расклейваючы ўлёткі на сценах і агароджах свайго горада.**

**Цяпер, калі хто хоча падзяліцца займальным сведчаннем, не трэба шукаць падыходзячы слуп ці плот. Куды лепш даслаць нам, у адпаведную рубрыку "Лісты чытачоў". А калі думкі і словы ніяк не хочуць складвацца ў адзін пазл, запрашаю скарыстаць парады.**


pixabay.com

### ЗАФІКСУЙЦЕ АСНОЎНЫЯ ДУМКІ НА ПАПЕРЫ

Зрабіце спіс усіх думак, ключавых слоў адносна той гісторыі, што маеце ў галаве. Калі ўбачыце іх перад сабой, стане прасцей зразумець, што лішняе, а на чым трэба засяродзіцца. Магчыма, прыдатным акажацца ўсё запісанае. Тады проста трэба размясціць думкі ў адпаведным парадку – і перад Вамі будзе гатовы план тэксту.

### ПАЧНІЦЕ ПІСАЦЬ

Самае складанае ў стварэнні матэрыяла – зрабіць першы крок. Мой любімы спосаб – пачаць з самага цікавага, пра што хочаце распавесці ў тэксце, і абарваць думку на палове, не давесці яе да канца. А пасля вярнуцца да яе ў ходзе апавядання. Напрыклад, хочаце падзяліцца сведчаннем з паломніцтва: "У гэтай пілігрымцы я спаткала чалавека, які цалкам змяніў маё жыццё. А першапачаткова я нават не збіралася туды ісці". А пасля распавядаеце пра тое, да каго гэтае паломніцтва, з якой інтэнцыяй і г. д. Цікавасць будзе падагрэтая.

### ХУТЧЭЙ ПЕРАХОДЗЬЦЕ ДА СУТНАСЦІ

Чым больш Вы зацягваеце з пераходам да галоўнага, тым менш жадання ў чытача далей знаёміцца з тэкстам. Не пачынайце здалёк, будзь то жаданне падзяліцца ўспамінамі ці разважаннямі.

Асноўная думка Вашага артыкула – самая важная частка. Але ўлічвайце тое, што шмат хто ў першую чаргу чытае толькі загаловак, першы абзац і заключэнне. Таму паспрабуйце зрабіць гэтыя часткі чэпкімі.

### СПРАСЦІЦЕ ТЭКСТ

Старайцеся, каб сказы не былі доўгімі. Калі чытач мае перад сабой 4-5 кароткіх сказаў, а не 1 даўжынёй у неблагі абзац, інфармацыя засвойваецца куды лепш. Разам з тым не бойцеся выкарыстоўваць цікавыя словы ці тэрміны – ніколі не думайце, што чытач недастаткова разумны ці адукаваны, каб зразумець.

### КАРЫСТАЙЦЕСЯ СІНОНІМАМІ

Практычна для любога слова можна знайсці 2-3 сінонімы. Разбаўленне тэкста гэтымі словамі заўважна "аблягчае" яго, робіць куды менш "грузным". Калі складана падбіраць такія выразы падчас напісання тэксту, давядзіце справу да канца, а пасля проста выдзеліце тое, што паўтараецца, і падбярыце замены для патрэбных слоў з дапамогай анлайн-слоўнікаў.

### НЕ АБАГУЛЬНЯЙЦЕ

Калі хочаце ўпрыгожыць тэкст некалькімі гісторыямі, не перадавайце іх кароткі змест, размяшчаючы адна за адной. Лепш абярыце 1-2 аповеды, якія зможаце перадаць больш яскравым і падрабязным спосабам. Гэта дазволіць чытачу "пражыць" напісанае.

### НЕ ЗГУБІЦЕ СУТНАСЦЬ ЗА ЭМОЦЫЯМІ

Калі з'яўляецца жаданне падзяліцца пэўным сведчаннем, хутчэй за ўсё, гэта выклікана бурлівымі эмоцыямі, якія перажываем. Аднак трэба памятаць, што ў тэксце куды больш важна перадаць не "што мы перажываем", а "чаму мы гэта перажываем".

***Чакаем Вашы лісты на нашу электронную пошту slowo.grodnensis@gmail.com або па адрасе 230025 г. Гродна, вул. К. Маркса, 4.***

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Ці ўплывае абранае імя на далейшы лёс дзіцяці?

grodnensis.by

*Абранае для дзіцяці імя не ўплывае на яго лёс, які залежыць толькі ад адкрытасці чалавека на Божую ласку, але яно мае вялікае значэнне.*

*Перш чым даць дзіцяці імя, варта даведацца, як гэта рабілі людзі Бога ў часы патрыярхаў і прарокаў, а таксама як было з наданнем імя Езусу і апосталам. У старажытнасці дзіця атрымлівала імя па бацьках або дзядулях і бабулях. Некаторыя імёны мелі рэлігійны характар і адносіліся да нейкага боства, а імёны нявольнікаў часта ўказвалі на тэрыторыю, з якой яны паходзілі. Часам імёны выяўлялі пэўную рысу характару, якую бацькі хацелі б бачыць у свайго сына ці дачкі. Таксама не ўсе імёны даваліся пры нараджэнні. Былі імёны, якія даваліся за канкрэтныя заслугі або звязаныя з прынятым нейкай важнай пасады.*

*У Бібліі знойдзем шмат тэкстаў, дзе гаворыцца пра значэнне імён, якімі бацькі называлі сваіх дзяцей, і імён, якімі Бог называў сваіх слуг з моманту іх паклікання. Напрыклад, "ты Сымон, сын Яна; ты будзеш названы Кефас, што азначае «скала»" (параўн. Ян 1, 42), "і на гэтай скале Я пабудую Касцёл Мой, і брамы пякельныя не пераможуць яго" (Мц 16, 18).*

*Сярод юдзеяў існуе таксама погляд, што ў хвіліны надання імя ў чалавека ўваходзіць "вышэйшая душа". Толькі тады Бог можа яго заклікаць і пасылаць. Безыменныя маюць ускладненыя адносіны з Богам і людзьмі, бо як жа звяртацца да іх, калі іх ніхто не назваў? Мідраш на Кнігу Эклезіяста кажа, што кожны мае тры імёны: першае даюць яму бацькі, другім называюць яго іншыя людзі, а трэцяе ён мусіць здабыць сам. Каб чалавек быў шчаслівы, ён павінен прыняць першае, прызвычаіцца да другога і адкрыць трэцяе. Імя, дадзенае пры нараджэнні, з'яўляецца словам, якое распачынае малітву, а адкрытае пазней – ключом да неба.*

*Даючы імя свайму дзіцяці, бацькі распачынаюць яго асабістую малітву. Кажуць "А", каб яно магло жыццём дадаць "Б". Гэтая малітва – таксама іх найглыбейшыя жаданні наконт яго будучыні.*

*Згодна са старым звычаем, само дзіця прыносіць сваё імя ў свет. Дзень, калі яно нарадзілася, ужо мае сваё імя, і гэта імя святога, чый успамін Касцёл у той дзень адзначае.*

*Гэта, безумоўна, не з'яўляецца нейкай догмай. Ёсць бацькі, якія задоўга да нараджэння дзіцяці вывучаюць біяграфіі святых і разважаюць. Ёсць і такія, якія пакідаюць выбар імя для дзіцяці на апошнюю хвіліну. Іншыя шукаюць больш арыгінальных натхненняў у назвах кветак (Ружа) і з'явах прыроды (Аўрора).*

*Варта памятаць, што, выбіраючы дзіцяці імя, не толькі выбіраем яму апекуна, але і распачынаем малітву да Бога, каб учыніў наваароджанага тым, кім ён сапраўды ёсць, і каб ён не жыў толькі для сябе, а быў благаслаўлённем для іншых. Каб паўсюль яго імя прамаўлялася з удзячнасцю Богу за яшчэ аднаго добрага чалавека.*

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# СЕКСУАЛЬНЫЯ ПРАБЛЕМЫ Ў СУЖЭНСТВЕ



Кс. Павел Салабуда, псіхолаг

працяг са с. 1

Сёння секс з'яўляецца адной з галоўных тэм. Канцэпцыі адносна таго, як яго разумець, вельмі розная, і ён выклікае мноства спрэчак. На ўсё гэта могуць уплываць разнастайныя фактары, сярод якіх, перш за ўсё, будзе спосаб выхавання:

**1. У сям'і** *(ці размаўлялі бацькі з дзецьмі на гэтую тэму, ці абыходзілі яе).*

**2. У Касцёле** *(ці сутыкнулася асоба са здаровым, рэлігійным навучаннем на гэтую тэму).*

**3. У школе** *(ці была гэтая тэма ахоплена праграмай навучання, якія матэрыялы выкарыстоўваліся).*

**4. У асяроддзі** *(якія прынцыпы паводзін равеснікаў пераважалі)* ***і г. д.***

Сёння, на жаль, у шлюбе існуе мноства праблем, звязаных з сексуальным сужыццём. Прычына ўсяго гэтага ў тым, што свет забыўся, што секс – гэта дар, створаны Богам, і што Ён захаваў палавыя зносіны толькі для шлюбу. Важна глядзець на гэтае пытанне з Божага пункту гледжання і памятаць, што кожны шлюбны акт мае духоўнае вымярэнне.

Вельмі часта здараецца так, што жонка адмаўляецца ад палавога акту, а муж жадае блізкасці і не можа справіцца з гэтай складанай сітуацыяй. Вядома, калі адзін з бакоў адмаўляецца ад сужыцця без пэўнай прычыны, ён падштурхоўвае сужэнца шукаць задавальнення сваіх патрэб па-за шлюбам, а значыць, падштурхоўвае да здрады. З іншага боку, варта паклапаціцца аб сваёй палавой сталасці, каб праблемы фізічных зносін у шлюбе не прывялі да распаду сужэнства. Калі яно не складваецца згодна з чаканнямі аднаго з бакоў, мужу і жонцы варта разам прыкласці намаганні, каб знайсці адпаведнае рашэнне гэтай праблемы. Варта ўзаемна клапаціцца аб павазе да другога чалавека, аб аднадушнай любові і адказнасці адзін за аднаго.

Абмяркоўваючы праблемы, звязаныя з інтымнай сферай сужэнцаў, варта звярнуць увагу, перш за ўсё, на тое, што яны не ведаюць, куды могуць звярнуцца з тым, што іх непакоіць. Таксама ў падобных сітуацыях звычайна гаворыцца аб неадпаведнай камунікацыі. Часцей за ўсё ў мужа і жонкі не хапае смеласці або яны не здольны пагаварыць адзін з адным на гэтыя тэмы. І гэта адна з найважнейшых праблем.

Калі згадаць псіхалагічную дапамогу, то варта найперш падкрэсліць рознасць значэння шлюбнага акту для жанчыны і мужчыны. Мужчына ставіцца да яго як да сродку задавальнення сексуальных патрэб, як да крыніцы задаволенасці. У выпадку паспяховага палавога жыцця ён атрымлівае пачуццё паўнаты мужнасці. Падчас шлюбнага акту менавіта праз блізкасць мужчына выказвае любоў да жонкі, тое, што адчувае адносна яе. Для жанчыны шлюбны акт – гэта, найперш, сяброўская, рамантычная,





пяшчотная і палкая любоў. Яна таксама супакойвае сваю палавую цягу, ажыццяўляючы важную блізкасць з мужам.

**У працы з сужэнствам, якое перажывае крызіс, варта:**

***1. Памятаць, што жанчына і мужчына розняцца тым, як яны перажываюць інтымны досвед. Мужу і жонцы неабходна гаварыць адзін з адным на гэтую тэму.***

***2. Забяспечыць сужэнцам добрую літаратуру па асноўных сексуальных пытаннях.***

***3. Дапамагчы ў выпраўленні камунікацыі, спосабе выражэння пачуццяў.***

***4. Параіць паспрабаваць больш засяроджвацца на даванні, чым на атрыманні.***

Калі ў шлюбе ёсць сур'ёзныя праблемы, звязаныя з інтымнай сферай, сужэнцам абавязкова неабходна звярнуцца за прафесіянальнай дапамогай. Але трэба ўмець выбраць правільнага псіхолага або сексолага са сфарміраваным, хрысціянскім поглядам на жыццё. У маёй практыкі быў выпадак, калі ў сямейную кансультацыю звярнулася маладая пара пасля псіхолага, які параіў ім палавую ініцыяцыю па-за шлюбам, каб зняць эмацыянальнае напружанне і вырашыць усе сужэнскія праблемы. Гэтак званы спецыяліст параіў здраду як выйсце са складанай сітуацыі. Гэта вельмі недарэчная парада, бо такі ўчынак можа мець шмат сур'ёзных наступстваў. Таму, паўтаруся, важна знайсці адпаведнага спецыяліста.

РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч

***23 студзеня – III Звычайная нядзеля***
***Лк 1, 1–4; 4, 14–21***

Паколькі многія браліся скласці апавяданне пра падзеі, якія адбыліся сярод нас, як перадалі нам тыя, хто ад пачатку быў відавочцам і слугою слова, вырашыў і я дакладна прайсціся па ўсім ад пачатку і апісаць табе ўсё па парадку, найшаноўнейшы Тэафіле, каб ты пазнаў праўдзівасць таго, чаму ты быў навучаны. У той час: Езус вярнуўся ў моцы Духа ў Галілею і разышліся чуткі пра Яго па ўсёй ваколіцы. Ён навучаў ва ўсіх сінагогах, і ўсе Яго славілі. І прыйшоў Ён у Назарэт, дзе быў выхаваны, і ўвайшоў паводле свайго звычаю ў дзень суботні ў сінагогу, і ўстаў, каб чытаць. Яму падалі кнігу прарока Ісаі. Ён, разгарнуўшы кнігу, трапіў на месца, дзе было напісана: "Дух Пана на Мне; бо Ён намасціў Мяне абвяшчаць добрую навіну ўбогім, паслаў Мяне абвяшчаць вызваленне палонным, і сляпым вяртаць зрок, каб выпусціць спакутаваных на свабоду, каб абвясціць год ласкі Пана". Закрыўшы кнігу, Ён аддаў яе слузе і сеў. А вочы ўсіх у сінагозе былі скіраваны на Яго. І Ён пачаў гаварыць ім: "Сёння споўніліся гэтыя словы Пісання, якія вы чулі".

## Адкрыцца на збаўленне

*Езус Хрыстус прыносіць чалавецтву Добрую Навіну. Прыносіць магчымасць перажыць пілігрымку па гэтым свеце ў іншым ракурсе, у перспектыве вечнасці. Вось чаму Ён прыйшоў на зямлю і чаму прыходзіць да нас падчас кожнай Эўхарыстыі. Ён наша збаўленне. Мы ахоплены Яго любоўю, якую пацвердзіў на крыжы.*

*Людскі шлях поўны розных перашкод. Мы не заўсёды здольныя пераадолець іх самастойна, але заўсёды можам зрабіць гэта разам з Езусам, з Яго ласкай. З моманту хросту чалавека пастаянна суправаджае Хрыстова сцверджанне, што Ён палюбіў нас бясконцай любоўю і ніколі не забудзе пра нас.*

*Гэтыя словы мы чуем пры розных нагодах: калі прымаем сакраманты, на малітве, у кожным добрым слове бліжняга. Людзі падводзяць, а слова Езуса ніколі не падводзіць. Гэта мы сыходзім, бо думаем, што справімся самастойна, паводле сваіх уяўленняў. Больш верым чалавечаму слову, чым слову самога Бога.*

*Просьма Езуса, каб Добрая Навіна заўсёды дасягала нашых сэрцаў, каб мы былі адкрытыя на дзеянне Яго збаўчай ласкі. Няхай розныя перашкоды не заглушаць Божае слова, якое мае моц змяняць нас, наша асяроддзе і тых, хто блізкі нашаму сэрцу.*

*Пане Езу Хрысце, дазволь мне адкрываць сваё сэрца на дзейнасць Тваёй збаўчай ласкі!*

***30 студзеня – IV Звычайная нядзеля***
***Лк 4, 21–30***

Езус пачаў гаварыць у сінагозе: "Сёння споўніліся гэтыя словы Пісання, якія вы чулі". І ўсе сведчылі Яму і здзіўляліся словам ласкі, якія выходзілі з вуснаў Ягоных, і казалі: "Ці не сын Юзафа гэта?". І Ён сказаў ім: "Напэўна, скажаце мне такую прыказку: Лекар, вылечы самога сябе; зрабі і тут, у тваёй бацькаўшчыне, тое, што, як мы чулі, сталася ў Кафарнауме". І сказаў: "Сапраўды кажу вам: ніводзін прарок не з'яўляецца пажаданым на сваёй бацькаўшчыне. Па праўдзе кажу вам: шмат удоў было ў Ізраілі ў дні Іллі, калі зачыненым было неба тры гады і шэсць месяцаў, так што быў вялікі голад па ўсёй зямлі. І да ніводнай з іх не быў пасланы Ілля, а толькі да жанчыны, удавы, у Сарэпту Сідонскую. Шмат таксама было пракажоных у Ізраілі ў часы прарока Елісея, і ніводзін з іх не быў ачышчаны, апрача Наамана Сірыйца". Пачуўшы гэта, усе ў сінагозе напоўніліся гневам і, устаўшы, выгналі Яго прэч з горада, і павялі на вяршыню гары, на якой быў пабудаваны іх горад, каб скінуць Яго. Але Ён, прайшоўшы паміж іх, адышоў.

## Адкрыцца на Бога

*Прыход Езуса ў Назарэт – гэта пілігрымка да каранёў, вяртанне ў тое месца, дзе Слова стала Целам. Тут Ён спазнаў гісторыю, традыцыі і мову. Гэта месца сустрэчы з Богам у сямейнай супольнасці, дзе важную ролю адыгралі чалавечыя і боскія карані. Езус ідзе туды, быццам нешта забыўся. Быццам хоча дапоўніць успамін, там здзяйсняе свае прарочыя прыміцыі.*

*Таму не дзіўна, што мы бачым і чуем Хрыста, які навучае ва ўласным сямейным асяроддзі ў Назарэце, таму што Ён заўсёды прыходзіць і вучыць "сваіх". Сваімі назваў тых, хто выконвае Яго волю. "Не кожны, хто кажа Мне: «Пане, Пане», увойдзе ў Нябеснае Валадарства, але той, хто выконвае волю Айца Майго, які ў нябёсах" (Мц 7, 21).*

*Езус, наш Збаўца, любіць кожнага, нават паганца і малавернага. Не важна паходжанне чалавека, яго гісторыя жыцця, культура, мова – мы ўсе аднолькавыя для Бога, мы Яго любімыя дзеці.*

*Давайце вучыцца кожны дзень прымаць Езуса ў сваё жыццё. Няхай Ён стане самым галоўным у нашых сем'ях і няхай заўсёды будзе нам патрэбны.*

*Пане Езу Хрысце, учыні мяне здольным выконаць Тваю волю з адкрытым сэрцам і з радасцю!*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ ГЕДРОЙЦЮ

*з нагоды імянін перасылаем найлепшыя пажаданні: патрэбных Божых ласкаў, моцнага здароўя і радасці. Няхай Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, благаслаўляе кожны Ваш дзень і адорвае здароўем на сто гадоў жыцця, нахай Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух, шчодры на дары, дапамагае годна выконваць паслугу. Няхай Ваша сэрца будзе заўсёды напоўнена супакоем і любоўю, а побач будуць добрыя і шчырыя людзі.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Галынкі і Перстуні*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАНОНІКУ ЗДЗІСЛАВУ ВЭДЭРУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаю найлепшыя пажаданні. Няхай добры Бог Айцец узнагародзіць Вас здароўем і поспехам, Езус Хрыстус благаслаўляе кожны Ваш дзень і вядзе па абраным шляху, а Маці Божая атачае сваёй любоўю, клапоціцца і заўсёды дапамагае ў цяжкія моманты жыцця.*

*Са шчырай малітвай Аліцыя Воранава са Смаргоні*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ АЛЯКСАНДРУ МЯТЛІЦКАМУ

*з нагоды дня нараджэння ад усяго сэрца жадаю сіл, моцнага здароўя ў нялёгкай паслузе, якую Вы выбралі. Няхай Пан Езус адорыць Вас патрэбнымі ласкамі, а Маці Божая няспынна апекуецца.*

*Са шчырай малітвай Аліцыя Воранава са Смаргоні*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЧЭСЛАВУ ПАЎЛЮКЕВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. У гэты асаблівы дзень мы хочам падзякаваць Вам за штодзённае сведчанне, за словы, учынкі і самаадданасць у набліжэнні нас да Божага Валадарства, а таксама за ўсмешку і радасць, якія выпраменьваюцца ад Вас. Просім за Вас, Ксёндз Чэслаў, звяртаючыся да Бога словамі: "Ойча Нябесны, дай свайму пастыру сэрца, падобнае да сэрца Твайго Сына Езуса Хрыста". Жадаем Вам шчасця, якое вынікае з Божай абранасці, шчодрых Божых ласкаў, даверу і надзеі ў Пану. Жадаем таксама несці Добрую Навіну, распаўсюджваць радасць, надзею і любоў, каб быць знакам любячай прысутнасці Бога сярод Божага люду. Няхай любоў, якая звязвае ўсё разам і яднае чалавечыя сэрцы, заўсёды будзе Вашым удзелам, асабліва ў будаўніцтве сувязі паміж святаром і вернікамі. Мы са свайго боку асаблівым чынам ахінаем Вас сваімі малітвамі, каб Бог благаслаўляў Вас і пастаянна ўмацоўваў сваёй ласкай і супакоем.*

*Парафіяне з Росі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯЎГЕНУ БАРЫСЮКУ

*з нагоды дня нараджэння складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Пан Бог адорвае патрэбнымі ласкамі, Маці Божая апекуецца Вамі, а святы заступнік заўсёды будзе побач. Жадаем нязгаснага запалу ў душпастырскай паслузе, усмешкі на твары, сіл і натхнення ў служэнні Богу і людзям. Дзякуем за добрыя словы, уважлівасць і чуласць.*

*Парафіяне касцёла св. Андрэя Баболі ў в. Казловічы і парафіяльная супольнасць Святой Сям'і ў аг. Верцялішкі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПАЎЛУ КАЛЕСНІКУ

*з нагоды дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою і шчодрага плёну ў паслузе на ніве Пана. Няхай Вас абмінае смутак, радасць заўсёды спадарожнічае, а цярплівасці і стойкасці хопіць на доўгія гады адданай душпастырскай паслугі.*

*Легіён Марыі і апостальства "Маргарытка" касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

### ДАРАГІ КСЁНДЗ ПРОБАШЧ ЮРЫЙ БЯГАНСКІ!

*З нагоды дня нараджэння прыміце віншаванні, якія выказваем Вам ад імя ўсёй нашай парафіяльнай сям'і. Няхай добры Бог ахінае Вас сваімі ласкамі, чувае над Вамі і падтрымлівае сваёй рукой, калі Вам гэта трэба. Няхай Марыя, Маці Тракельская, будзе Вашым шчытом і абаронай, акружае Вас сваёй мацярынскай апекай і напаўняе сэрца супакоем, надзеяй, любоўю ды падзякай. Жадаем быць проста шчаслівым, паўнавартасным і закаханым у Бога і Маці Божую. Мы дзякуем Вам за велізарныя намаганні, якія ўкладваеце ў працу ў нашай парафіі. Кожны дзень ахінаем Вас малітвай, дзякуючы Богу за тое, што Вы з намі, каб у Вас не канчаліся сілы і існавала пастаянная патрэба быць з Богам і людзьмі.*

*Вернікі парафіі Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі ў Тракелях*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПАЎЛУ БЕЛАНОСУ

*з нагоды дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, поспехаў, душэўнага супакою і аптымізму. Няхай кожны дзень ахвярнай паслугі будзе асвечаны святлом Святога Духа, а Бог заўсёды Вас аберагае і ўзнагароджвае за ўсё праз нашы малітвы.*

*Удзячныя парафіяне і Касцёльны камітэт з Макараўцаў*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

## У Навагрудку пройдзе курс "Новае жыццё"

З 4 па 6 лютага пры парафіі св. Міхала Арханёла ў Навагрудку пройдзе евангелізацыйна-актывізацыйны курс "Новае жыццё".
Ён разлічаны на тых, хто жадае адкрыць і адчуць Божую любоў, і на тых, хто мае сумненні ў веры.
Мэта курса – усталяванне або аднаўленне адносін з Богам праз асабістую сустрэчу з уваскрослым Хрыстом у Божым слове, Эўхарыстыі і малітве.
Заняткі правядзе а. Андрэй Врублеўскі CSsR, душпастыр з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне, разам з парафіяльнай евангелізацыйнай групай.

***Умовы ўдзелу:***

** узрост ад 18 гадоў; * магчымасць удзелу ад пачатку да канца курса.*

*Пачатак – **4 лютага, пятніца, у 19.00**; заканчэнне – **6 лютага, нядзеля, каля 15.00.***
*З сабой трэба мець: **Біблію (Стары і Новы Запаветы), ручку, сшытак.***
*Заняткі пройдуць па адрасе: **г. Навагрудак, вул. Савецкая, 2, касцёл св. Міхала Арханёла.***
*Пытанні і запіс па тэлефонах: **(8 029) 288-70-44 – Наталля, (8 044) 771-99-83 – Марына.***

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

Сёлета спаўняецца 500 гадоў з часу выдання Францішкам Скарынам "Малой падарожнай кніжыцы". Надрукаваная ў 1522 годзе ў Вільні, яна стала, па сутнасці, першым малітоўнікам для вернікаў, выдадзеным на беларускай мове. З нагоды юбілею выдання ў Літве 2022 год абвешчаны Годам Францішка Скарыны.

Каб ушанаваць гэтую важную гістарычную падзею ў духоўна-рэлігійным жыцці, 20 студзеня ў Мінску, Полацку, Вільні, Варшаве, Падуі і Празе адбудуцца ўрачыстыя цэлебрацыі св. Імшы.

Плануецца, што ў кожнай краіне літургію ўзначаляць высокія касцёльныя іерархі: у Празе – кардынал Дамінік Дука, у Варшаве – біскуп Міхал Яноха, дапаможны біскуп Варшаўскай архідыяцэзіі, у Вільні – біскуп Арунас Паняшкайціс, дапаможны біскуп Віленскай архідыяцэзіі. У Беларусі адпаведныя набажэнствы ўзначаляць арцыбіскуп Юзаф Станеўскі і біскуп Алег Буткевіч.




**рэлігійны часопіс**

Літургія св. Імшы зазвычай прызначана для дарослых удзельнікаў і не дазваляе малым дзецям зразумець усю яе значнасць. І тады паўстае практычнае пытанне: "Ці павінны бацькі браць з сабой на св. Імшу дзяцей?". Рабіць гэта варта.

Можа, хтосьці лічыць, што, спрабуючы дапамагчы свайму дзіцяці па-сапраўднаму перажыць св. Імшу, ён сам сябе абдзяляе, бо не мае магчымасці глыбока, напоўніцу перажыць набажэнства. Але ж давесці вашых дзяцей да Бога – гэта і ёсць ваша бацькоўскае пакліканне! Бог паклікаў вас стаць бацькам ці маці гэтага дзіцяці. Памятайце таксама, што літургія – гэта супольная малітва, а не прыватная, а ваша дзіця – удзельнік супольнасці.

Мэта вашай выхаваўчай дзейнасці – паказаць дзіцяці вартасць літургіі. Калі на нядзельнай св. Імшы дзіця будзе адчуваць любоў, то яно зробіць усё, каб заўсёды ў ёй удзельнічаць.




**беларуская рэдакцыя**

Біскуп чарговай італьянскай дыяцэзіі вырашыў адмовіцца ад хросных бацькоў падчас сакраманту хросту. Пастанова ўжо ўступіла ў сілу і будзе дзейнічаць на працягу трох гадоў.

Біскуп Даменіка Магавэра, пастыр Мадзара-дэль-Вала лічыць, што роля гэтых асоб страціла свой духоўны сэнс, а іх прысутнасць на літургіі стала выключна фармальнай. Кіраўнік сіцылійскай дыяцэзіі не першы італьянскі біскуп, які прыняў такое рашэнне. Ён падкрэсліў, што пры выбары хросных іх вера ўсё часцей адыходзіць на другі план, хоць іх задача – дапамагчы дзіцяці жыць сваёй верай. Біскуп Магавэра звярнуў увагу на ўсё большую крывадушнасць у гэтым аспекце, таму ён перакананы, што лепш часова спыніць традыцыйную практыку. "Калісьці хросныя бацькі адыгрывалі важную ролю. Цяпер значэнне мае толькі канверт, а не глыбокі духоўны сэнс", – адзначыў іерарх.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

У Навагрудку адбыліся курсы "Акадэмія трубы" для моладзі з музычным талентам. Заняткі пры касцёле св. Міхала Арханёла правёў лаўрэат міжнародных конкурсаў, саліст аркестра "Tiroler Fiestspiele Erl Orchestra" ў Аўстрыі Аляксандр Ахрэмка.

Гэтыя курсы, якія праводзяцца ў Беларусі ўжо не першы раз у розных месцах (звычайна пры каталіцкіх святынях), ладзяць знакамітыя музыкі на чале з галоўным арганізатарам Аляксандрам Ахрэмкам. Мерапрыемства звычайна складаецца з дзвюх частак: заняткаў і канцэрта.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія;** год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ААТ "Брэсцкая друкарня"**, 224013 Брэст, праспр. Машэрава, 75; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.